«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

№ 66 (4626)

31 жніўня 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

ФИНАНСЫ

## Стало известно, кто вошел в топ-10 налогоплательщиков Минска

В Минске определили топ-10 крупнейших налогоплательщиков в январе–июле 2021 года, пишет агентство «*Минск-Новости*» со ссылкой на инспекцию Министерства по налогам и сборам по Минску.

Специалисты уточнили: за истекший период местные налогоплательщики перечислили в консолидированный бюджет столицы 9,954 миллиарда рублей. Эти средства распределены между республиканской и городской казной. Почти треть финансовых вливаний – вклад 10 крупных субъектов хозяйствования. Лидер рейтинга предприятий, обеспечивших наибольшие суммы поступлений, – ОАО «Газпром трансгаз Беларусь».

В топ-10 также попали ООО «Табак-Инвест», совместное общество с ограниченной ответственностью «Мобильные ТелеСистемы», Минское республиканское унитарное предприятие электроэнергетики «Минскэнерго», ОАО «Сберегательный банк «Беларусбанк», иностранное предприятие «СЛАВНЕФТЕХИМ» ЗАО, унитарное предприятие по оказанию услуг «А1», ЗАО «Новая нефтяная компания», ОАО «МИНСК КРИСТАЛЛ» – управляющая компания холдинга «МИНСК КРИСТАЛЛ ГРУПП», ЗАО «Минский завод виноградных вин».

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Не губляйце сувязі з «Народнай Воляй»!

Шаноўныя прыхільнікі «Народнай Волі»!

Мы разумеем, якую ролю ў Вашым жыцці адыгрывае незаангажаванае **свабоднае СЛОВА**, якое не прайшло праз абмежаванні жорсткай цэнзуры.

Такое **свабоднае СЛОВА** вось ужо 27-ы год даносіць «Народная Воля». І рэдакцыя прыкладае ўсе высілкі для таго, каб наша і ваша газета як мага хутчэй змагла друкавацца на паперы і даходзіць да чытачоў у ранейшым варыянце. На жаль, пакуль нам адмоўлена ў паліграфічных паслугах як у Беларусі, так і ў Расіі. А таму працягваем выдаваць «Народную Волю» ў электронным варыянце. Вядома ж, не ўсе Вы, сябры, карыстаецеся камп'ютарам. Але выйсце ёсць: не можа быць, каб нехта з Вашых родных, сяброў, суседзяў, саслужыўцаў не быў у ладах з сучаснымі інфармацыйнымі тэхналогіямі. Папрасіце іх, каб яны за Вашы сродкі падпісалі Вас на PDF-версію газеты, і ўжо праз іх Вы зможаце атрымліваць самыя свежыя нумары «Народнай Волі» ў раздрукаваным выглядзе.

Падпісацца на PDF-версію «Народнай Волі» можна на сайце ***belpressa.by***. Для гэтага трэба зайсці на сайт ***belpressa.by***, націснуць ўкладку ***«2021»*** і выбраць месяцы, на якія вы будзете афармляць падпіску.

Паколькі рэдакцыя ўжо каторы месяц не мае даходаў ад рэалізацыі выдання праз «Белпошту» і «Белсаюздрук», то мы рэальна зацікаўлены ў павелічэнні падпісчыкаў на PDF-версію.

Асобна звяртаемся да тых, хто мае магчымасць праявіць адрасную дабрачыннасць. Ёсць некалькі спосабаў пералічыць грашовыя сродкі (даём рэквізіты ў рускамоўным варыянце) на рэдакцыйны рахунак.

1.Через ЕРИП:

СМИ – Н (просто буква) – «Народная Воля» – Добровольные взносы.

2.Через БАНК:

ИЧУП «Народная Воля». 220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а

р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933,

Код PJCBBY2X, ЦБУ 113 «Приорбанк» ОАО, г.Минск

УНП 100961759, ОКПО 37381505

Загадзя выказваем шчырую ўдзячнасць!

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

СТАЛО ИЗВЕСТНО...

## Сергей Дылевский обратился к белорусам



### Будет ли он услышан?

Если говорить точнее, то бывший термист Минского тракторного завода **Сергей Дылевский**, проявивший в минувшем году активную гражданскую позицию, из-за чего был вынужден уехать за границу, обратился вчера не ко всем белорусам, а главным образом к рабочим, которых он называет основой белорусского государства.

«*Мы отстаивали свои права год. Мы выставляли ультиматумы, выходили на марши, устраивали пикеты и голодовки. Но даже после этого нас игнорировали. Пора сделать следующий шаг. Это уже не просто борьба за голоса. Это борьба за наши права, за возвращение гордого звания «рабочий», за освобождение наших друзей и близких из тюрем*», – вот лейтмотив обращения С.Дылевского.

Он предлагает белорусским рабочим выдвинуть властям следующие требования:

1.Прекращение репрессий, освобождение всех политических заключенных и незаконно арестованных.

2.Приведение зарплат, стипендий и пенсий в соответствие с реальной экономической ситуацией в стране.

3.Начало прямых переговоров между властью и демократическими силами с обязательным участием лидеров рабочих о проведении новых президентских и парламентских выборов для разрешения политического и экономического кризиса.

4.Восстановление уволенных работников, исключенных студентов и гарантии безопасного возвращения всех граждан Республики Беларусь, покинувших страну из-за репрессий.

5.Реализация права на деятельность независимых профсоюзов, в т.ч. на создание новых.

6.Реализация конституционного права граждан на свободное передвижение.

7.Реализация права граждан на защиту от COVID-19, в том числе путем вакцинации международно признанными вакцинами. Защита прав медиков.

8.Реализация конституционного права на свободу слова. Немедленное освобождение всех журналистов и блогеров.

9.Нормализация отношений со странами-соседями. Прекращение «гибридной» миграции.

10.Создание благоприятных условий для развития малого и среднего бизнеса.

И в самом деле: будет ли Сергей Дылевский услышан в трудовых коллективах, и в первую очередь на том же Минском тракторном заводе, которому он отдал пятнадцать лет?

РЭПРЭСІІ

## Прысуд шостай групе фігурантаў «карагоднай справы»

### Ужо вынесены 7 калектыўных прысудаў абвінавачаным ва ўдзеле летась 13 верасня ў карагодзе на скрыжаванні бульвара Касманаўтаў і праспекта Машэрава ў Брэсце.

На гэты раз у Ленінскім раённым судзе Брэста суддзя **Дзмітрый Куроўскі** пакараў:

**Кацярыну Бровач** 1 годам 6 месяцамі «хатняй хіміі»;

**Сяргея Канановіча** 1 годам 6 месяцамі «хіміі»;

**Арцёма Ласкага** 2 гадамі «хіміі»;

**Глеба Нікановіча** 1 годам 6 месяцамі «хіміі»;

**Віктара Атрошку**, пенсіянера, 2 гадамі «хатняй хіміі»;

**Таццяну Рагачоўскую** 2 гадамі «хатняй хіміі»;

**Юрыя Сацюка** 1 годам 6 месяцамі «хатняй хіміі»;

**Ігара Сямыкіна** 1 годам 6 месяцамі «хіміі»;

**Арцёма Тарасюка** 1 годам 6 месяцамі «хіміі».

Таксама прысуд вынесены некалькім фігурантам, якія да вынясення прыгавора знаходзіліся пад вартай:

**Аляксандру Жуку** – 1 год 6 месяцаў «хіміі»;

тэлевядучаму «Беларусь-4» **Канстанціну Свідуновічу** – 1 год 6 месяцаў «хіміі».

Такія тэрміны для абвінавачаных запрасілі пракуроры **Аляксандр Бацюшка** і **Міхаіл Юшчук.**

### У чым абвінавацілі падсудных?

Згодна з версіяй абвінавачання, падсудныя ў групе з іншымі асобамі наўмысна *«бралі актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак»*.

Іх дзеянні нібыта былі спалучаны з непадпарадкаваннем законным патрабаванням прадстаўнікоў улады, пацягнулі за сабой парушэнне працы транспарту, арганізацый і прадпрыемстваў. З прычыны прастою тралейбуснаму парку нанесена шкода ў суме 619 рублёў 55 капеек, аўтобуснаму – 40 рублёў 37 капеек, на некалькі гадзін закрыліся гандлёвыя павільёны і рэстаран хуткага харчавання.

З-ЗА КРАТАЎ

## Прысуд Марыі Калеснікавай і Максіму Знаку могуць вынесці ў бліжэйшыя дні



Учора працягнуўся судовы працэс над прадстаўнікамі каманды экс-прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта **Віктара Бабарыкі**, членамі Прэзідыума Каардынацыйнага савета па ўрэгуляванні палітычнага крызісу ў Беларусі **Марыяй Калеснікавай** і **Максімам Знакам**, якіх абвінавачваюць па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса Беларусі.

Гэта ч.3 арт.361 (заклікі да дзеянняў супраць нацбяспекі), ч.1 арт.357 (змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады неканстытуцыйным шляхам), ч.1 арт.361-1 (стварэнне экстрэмісцкага фарміравання і кіраўніцтва ім). Ім пагражае да 12 гадоў турмы.

– *Адвакат дачкі кажа, што разгляд справы ідзе хуткімі тэмпамі, таму не выключана, што прысуд могуць вынесці нават на гэтым тыдні,* – распавёў «Народнай Волі» **Аляксандр Калеснікаў**, бацька Марыі.

Дарэчы, напрыканцы мінулага тыдня Аляксандр Паўлавіч ўпершыню за год атрымаў магчымасць убачыць дачку – яго выклікалі ў суд. Але падрабязнасцяў ён распавесці не можа, бо знаходзіцца пад падпіскай аб неразгалошванні.

– *Адно магу сказаць: сустрэча была дастаткова нечаканай,* – адзначае бацька Марыі Калеснікавай. – *Я ўбачыў дачку, яе настрой, непаўторную ўсмешку і ўнутраную свабоду.*

*Маша ў гэтай клетцы проста пырхала, як птушка. Было вельмі прыемна ўбачыць яе традыцыйнае сэрцайка, я не вытрымаў і таксама яго паказаў.*

*Які ў дачкі настрой? Такі, як быццам яна зараней ведае, што будзе далей. Унутрана яна да гэтага гатова, разумее, чым усё закончыцца.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Наталля ПІНЧУК: «Пайшлі лісты ад Алеся, але нешта не тое...»

### Больш за месяц знаходзяцца за кратамі праваабаронцы ***Алесь Бяляцкі***, ***Валянцін Стэфановіч*** і ***Уладзімір Лабковіч***.

*Пасля ператрусаў, допытаў і некалькіх сутак у ізалятары часовага ўтрымання праваабаронцаў перавялі ў СІЗА на Валадарскага, дзе яны знаходзяцца і зараз.*

– Быў даволі значны перапынак у атрыманні лістоў ад Алеся, – *распавяла «Народнай Волі»* ***Наталля ПІНЧУК***, *жонка* ***Алеся Бяляцкага***. – Каля трох тыдняў зусім нічога не атрымлівала. Але потым лісты пачалі актыўны прыходзіць, хаця з імі нешта не тое. Яны больш абстрактнага характару, і, па сутнасці, у лістах з Алесем мы не перасякаемся. Тое, што я пішу яму, дасылаю, не знаходзіць водгуку. Асабліва ў тым, што атрымліваю.

Складваецца ўражанне, што мае лісты ідуць як быццам у паралельную рэальнасць, але не да Алеся. Магу меркаваць, што лісты не даходзяць, але гэта толькі здагадкі.

*Пра саму справу зараз таксама ніякай новай інфармацыі няма.*

– З гэтай нагоды з адвакатамі не маем ніякіх камунікацый, бо яны проста маўчаць, – *дадае Наталля Пінчук.* – Усе знаходзяцца пад падпіскай аб неразгалошванні, а таму не маюць права нешта казаць пра справу і ход расследавання.

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ПАЗІЦЫЯ

## «Я пакуль абраў суд...»

### Праваабаронца з Гомеля **Леанід Судаленка**, які ўжо 8 месяцаў знаходзіцца ў СІЗА, адмовіўся пісаць прашэнне аб памілаванні, паведамляе БелаПАН.

Судаленка распавёў у лісце, копія якога ёсць у распараджэнні агенцтва, што **Юрый Васкрасенскі** прапаноўваў яму напісаць да 31 жніўня «*пакаянную*».

«*Я пакуль абраў суд. Ён жа даверанасці ад таго, хто будзе мілаваць, не прыклаў. А раптам правакатар?*» – адзначае ў лісце праваабаронца.

Працэс па ягонай справе павінен пачацца 3 верасня ў судзе Цэнтральнага раёна Гомеля і будзе адкрытым.

Судаленка абвінавачваюць у арганізацыі і фінансаванні дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак (чч.1 і 2 арт.342 КК РБ). Так следства трактавала дапамогу праваабаронцы людзям. Ён дапамагаў аплачваць штрафы і абскарджваць рашэнні судоў.

**Віктар ШПАК.**

СТОП-КРАН

## Фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа» адмянілі

Традыцыйны Міжнародны фестываль духоўнай музыкі «Магутны Божа» праводзіўся ў Магілёве з 1993 года; апошнім часам яго ладзілі раз на два гады, але сёлета яго адмянілі, піша *katolik.life*.

Фестываль сёлета мог стаць 24-м, аднак да 30 жніўня інфармацыя пра яго так і не з'явілася, хоць звычайна ён праходзіў увесну ці ўлетку.

Прычыну адмены арганізатары назваць не здолелі. Як мяркуе партал каталікоў, наўрад ці прычынай мог стаць каранавірус – іншыя святы і фэсты, у тым ліку «Славянскі базар уВіцебску», адбыліся.

Фестываль «Магутны Божа» ставіў на мэту адраджэнне духоўнай культуры на хрысціянскім падмурку, умацаванне і пашырэнне міжнародных сувязяў, аб'яднанне і ўзаемнае духоўнае ўзбагачэнне з дапамогай музыкі. Фэст збіраў больш за 900 салістаў і творчых калектываў з розных краін.

У праграме былі конкурсы вакалістаў і харавых калектываў, духоўныя спектаклі, свята званавай музыкі, канцэртныя выступленні. Таксама ладзіліся канферэнцыі, на якіх абмяркоўваліся актуальныя пытанні рэлігіі і веравызнання, узаемадзеянне царквы і дзяржавы.

Фестываль назвалі па вершы «Магутны Божа» **Наталлі Арсенневай**, які лёг у аснову беларускага духоўнага гімна. Да нядаўняга часу гэтая песня-малітва шырока выконвалася як у праваслаўных, так і ў каталіцкіх цэрквах.

ЗВАНЫЙ ГОСТЬ

## Юлия ШПИЛЕВСКАЯ:

# «Совесть – моя главная плетка»

*У «Свободных купаловцев» начался 102-й театральный сезон. Мы уверены, что когда-нибудь этот коллектив талантливых и мужественных актеров станет независимой театральной труппой и обретет свой собственный дом. Но пока их работа существует только в виртуальном мире.*

Сегодня наш гость – заслуженная артистка **Юлия Шпилевская**. Утонченная и в то же время очень сильная женщина, творческий диапазон которой огромен: от барочной принцессы до роковой банкирши. А как она поет!.. Но в эти дни, когда исполнился год после ухода купаловцев из родного театрального дома, наш разговор, конечно, то и дело касался политической реальности родной Беларуси.



**– Из чего состоит сегодняшний день актрисы Юлии Шпилевской? Вы ведь потеряли сразу два дома: театр и телевидение. Где же обитает ваша душа?**

– Душа на месте. Конечно, я скучаю по театральной работе, ее сейчас очень мало, а я люблю быть предельно занятой. Что ж, зато есть время подумать и сказать честно, что в августе прошлого года мы мыслили идеалистически, немного даже киношно. Думали, что за два часа, условно говоря, произойдет завязка, кульминация и развязка. Теория всегда прекрасна и очень логична. На практике всё не так. Тяжело выходить из зоны комфорта, а тем более жить на баррикадах.

**– Но разве мы хотели строить баррикады?**

– Верно, мы хотели уважения. И что, это ненормально? Наказуемо? Мы надеялись, что даже у больших политиков есть кодекс чести.

**– Скажу, возможно, спорное: настоящий театр может состояться только при живом дыхании зала. Ваши видеоспектакли – это отлично: вы работаете – значит, вы живы! Мы любим «Свободных купаловцев». Но это всё же видео. Это не театр.**

– Пока мы вынуждены жить в таких обстоятельствах. Сегодня наша миссия, как мы ее чувствуем, – сохраниться самим и сохранить дух Купаловского театра. Потому что именно среди нас, ушедших, есть большие актеры, которые являются носителями традиций национального театра. А мы вокруг них очень сильно сплотились. Видео – это временная ниша.

**– Кстати, у вас в прошлом году была круглая дата: ровно 20 лет службы в Купаловском. И в тот же год – громкий уход.**

– Да… А могли быть цветы на первом сборе труппы после отпуска, как принято. Но я считаю, что все события прошлого года очень символические. Мы ведь ушли из дома-театра не потому, что нам стало тесно или голодно, как кому-то сейчас хочется представить. Нет. Так повелела нам наша путеводная звезда. Судьба, если хотите. Да, нам сейчас тяжело, но сказать, что мы умираем от тяжести своего положения, в то время когда люди действительно теряют жизнь и здоровье в борьбе, – такого не было и нет.

**– В том же 2020 году вы получили звание заслуженной артистки. У вас не было порыва в прошлом августе отнести свое звание к служебному входу театра?**

– Нет! Я не считаю это правильным, потому что звание – моя личная заслуга перед белорусской культурой. Да, я слышала, как иронизировали некоторые, кто остался в историческом здании, что мы не отказались от своих квартир и премий, но вот театр покинули. Смешная параллель. Квартиры никому давно не давали бесплатно, люди строили жилье за собственные средства. Или арендовали его и платили немалые деньги. А забрать у артиста звание – это как забрать у спортсмена медаль с чемпионата. Это же заработанное достижение.

**– А как себя сейчас чувствуют ваши коллеги-мужчины? Мне кажется, им морально пришлось тяжелее, чем актрисам.**

– Знаете, я даже не ожидала от них такой крепости духа. Мы, среднее поколение, почти все одногодки. И нам трудно было порой точно оценивать друг друга со стороны. И вдруг открытие таких невероятных качеств, как благородство, верность, взаимопомощь. И у мужчин, и у женщин. Вот говорю о своих коллегах, и по рукам мурашки бегут… Никто из нас не готовился в герои, и к реальной жизни это вообще мало отношения имеет. Но наши купаловские мальчишки – это мощь!

**– А где сейчас режиссер Николай Николаевич Пинигин?**

– Он с нами, это главное. Но именно сейчас, наверное, на Витебщине – у него там дом. У нас, конечно, есть общие планы. Но претворятся ли они? Сегодня порой не знаешь, где ты окажешься к вечеру.

**– Вам не хотелось посмотреть новую «Павлинку»? Или спектакль «Женитьба» в Купаловском театре с новым составом актеров?**

– Наверное, хотелось бы… У меня нет злости или обиды на тех, кто остался в том здании, а к молодым актерам вообще нет претензий. Я в их возрасте тоже была аполитичным человеком, потому что передо мной стояли совсем другие жизненные проблемы. Некоторые возмущаются: «Как можно не сделать выбор, это же очевидная ситуация!» Верно. Только все на нее смотрят под разными углами. У кого-то в голове нету даже файла для политической информации.

**– Я вот многим вашим артистам задаю этот вопрос: великая Стефания Станюта ушла бы вместе молодыми из Купаловского?**

– Считаю, что да, ушла бы вместе с нами. А вот кто не ушел бы, так это Лилия Михайловна Давидович. По крайней мере так можно предположить, зная, какой «правильной» комсомольской закалки был этот человек. Хотя что можно утверждать наверняка? Главное – не надо плевать в спину друг другу. Каждый выбрал свой путь.

**– Какие прогнозы на будущее? Как думаете, вы, «Свободные купаловцы», надолго останетесь вместе? Или жизнь заставит искать другую работу?**

– Жизнь уже заставляет…

**– Вы могли бы пойти работать в театр музыкальной комедии?**

– Кто ж меня туда возьмет? Мы ведь в списках «переобувшихся». Я, правда, не понимаю, какие ко мне как гражданину могут быть претензии. Я никогда не поддерживала насилие: ни до выборов, ни после. Так где я переобулась? А страну, мою родину Беларусь, я не предавала, я, по-прежнему работаю на благо ее культуры. А человек у руля страны – это всего лишь должность, всего лишь работа. Людям у власти я не поклоняюсь.

**– А как вы расстались с телевидением?**

– Спокойно и решительно. Кстати, мое непосредственное начальство на СТВ – прекрасные люди.

**– Почему вы, актриса национального театра, пошли в свое время работать ведущей в утреннюю программу? Вам не хватало спектаклей в Купаловском?**

– В театре всегда не хватает работы. Там никогда нет такой ситуации, что ты завален от и до, особенно что касается актрис. Парни востребованы больше, и в любой труппе их всегда меньше. Да и работа в театре никогда не приносила значительного дохода. Поэтому пошла на телевидение, мне там тоже было очень интересно.

**– Хм, но любая утренняя ТВ-программа довольно однообразна по эмоциям. Вас это не выхолащивало?**

– Я консерватор и Козерог. Если люблю что-то делать, то делаю очень долго.

**– Вы не боитесь потерять актерскую форму?**

– Боюсь. А что делать? Работаю над собой. Жить без работы – это мрак. Мне нужен план, режим, график. И чтобы всё плотно. Кстати, актеры остались без работы еще прошлой весной, когда начался локдаун из-за ковида. И я стала метаться, боясь прозябания. Предложила мужу: «Давай купим мне мотоцикл!» Он меня поддержал. Купили и мне, и ему. Я сдала на права, теперь езжу. Хотя больше всего люблю ходить пешком. А вот мужа «потеряла» – он чуть ли не спортсменом стал, так увлекся этой машиной. Но, по правде говоря, всё это поиск острых эмоций, который нужен для того, чтобы сбить накопившуюся горечь. Как лекарство.

**– Вы понимаете, что «Свободные купаловцы» теперь в каком-то смысле заложники своей ситуации? Вы готовы к тому, что любовь зрителя в одно мгновение может смениться на жесткую критику?**

– Я никого не хочу обидеть, упаси Бог, но я не верю в эмоции в превосходных степенях: ни в большую любовь, ни в большую ненависть. Тем более что люди всегда найдут, за что не любить актрису. Поэтому оглядываться на публику не вижу смысла. Во что тогда превратится моя жизнь? Скажу банальщину: главный контролер – моя совесть. Это самая сильная плетка. Думаете, я не колебалась, когда уходила из театра? Сомнения были огромными! Но каждый раз, вспоминая те окаянные дни, анализируя события прошлого лета и осени, я прихожу к выводу, что по-другому быть не могло. Мы не могли остаться в театре. Иначе лично меня совесть бы просто замучила, и я сошла бы с ума.

**– Какой был ваш последний спектакль в Купаловском?**

– Очень-очень ждала премьеру «Вспоминая Шагала», но спектакль так и не вышел к зрителю. Поставил его Сергей Землянский, совершенно удивительный российский режиссер. Работники театра из вспомогательных цехов, которые смотрели спектакль на прогонах, выходили из зала со слезами на глазах. Сначала премьера была перенесена по техническим причинам. Потом по причинам политическим... Мы не успели его даже сдать худсовету.

**– Хочу задать вопрос: как долго вы можете купаться в собственном успехе?**

– Да никакого купания – любования собой и своими достижениями – нету!

**– А помните, вы снялись в клипе Сергея Шнура «Бомба»? Просмотров же было несколько миллионов…**

– Скажу, что я не фанатка группы «Ленинград», но фронтмен Сергей Шнуров очень умный и скромный человек, у него клевые тексты, в них всегда заложены вторые и третьи планы. Стихи его я с удовольствием читала. Хотя музыка группы… Мне, видите ли, нужна мелодия. Поэтому я не думала, что «Бомба» так бабахнет, извините за каламбур, но телефон после выхода клипа действительно разрывался… Мне было приятно, работа получилась достойная в целом. Но самый большой кайф я всё равно, конечно, получаю от хорошо сыгранного спектакля. Вообще-то, я подвержена самобичеванию. Это здорово осложняет мне жизнь, но именно сейчас эта черта мне помогла: я не свалилась с пьедестала, катастрофы не произошло. Хотя гармонии не хватает. Но я работаю над собой и периодически нащупываю равновесие. Понимаю, что я – единственный спаситель самой себя.

**Елена МОЛОЧКО.**

ПО ПОВОДУ

# Во многих своих бедах и неудачах люди виноваты сами

Как известно, большое видится на расстоянии. Только с течением времени, отрешившись от сиюминутных эмоций и впечатлений, мы можем в полной мере оценить роль и значение тех или иных исторических событий. Это относится и к событиям 1991 года – от вильнюсской трагедии до Беловежских соглашений. Среди этих событий особняком стоит августовский путч ГКЧП и его трагифарсовый провал. Эти три дня, которые "потрясли мир», вместе с тем стали прологом к развалу СССР. Тогда стало окончательно понятно, что обратной дороги нет и как прежде уже не будет. Хотя, наверное, мало кто тогда представлял себе, что именно нас ждет в ближайшем будущем.

К концу 1980-х годов СССР вступил в полосу глубокого, всестороннего и – как позже выяснится – необратимого кризиса. На самом деле советская система прошла свое акме еще в конце 1950-х годов, и с тех пор началось ее медленное, но неизбежное угасание. Причем во всех сферах: экономической, идеологической, политической и т.п. Хотя тогдашняя пропаганда изо дня в день уверяла, что «жизнь хороша и жить хорошо», многие понимали, что эти бравурные реляции далеки от реальности. На страницах газет и экранах телевизоров мы постоянно куда-то росли и чего-то достигали, а на практике люди видели постоянный дефицит, очереди и партийную номенклатуру, давно оторвавшуюся от простого народа. Именно этот гигантский разрыв между виртуальным миром и суровой реальностью стал одним из главных факторов, подтачивавших систему. На картинке всё было прекрасно: колосятся хлеба, льется сталь, космические корабли бороздят просторы Вселенной, а в реальности – пустые полки, бесконечные очереди, нарастающий маразм руководства и т.п. В результате в головах людей возникал когнитивный диссонанс: с одной стороны, им не уставали вещать о том, что «нам нет преград» и «с каждым днем всё радостнее жить», а с другой – они видели, как всё обстоит в реальности.

Сегодня многие ностальгируют по СССР, с тоской вспоминают колбасу по 2,20 и бесплатные санатории. Но Советский Союз был априори обречен: то, что построено на крови, лжи и насилии, не может существовать «долго и счастливо». Да, наверное, было тогда и что-то хорошее, но этот исторический проект был преступен по своей сути, и падение «империи зла» было закономерно и неизбежно. Да, Михаил Горбачёв пытался спасти Союз, начал перестройку, но эта попытка оказалась неудачной. К Горбачёву очень подходит старый римский постулат *Sic transit gloria mundi* («Так проходит слава мира»).

Стоит, увы, констатировать, что далеко не всё из задуманного тогда, 30 лет назад, удалось воплотить в жизнь. Когда в Москве рушили памятник Дзержинскому, то казалось, что с миром прошлого покончено и что теперь мы наконец заживем по-человечески, по принципам свободы, гласности, демократии, уважения к правам человека и т.д. Но не вышло. Дракон, казалось, убитый в 1991 году, вскоре, подобно птице Феникс, восстал из пепла и снова стал вершителем наших судеб, а мы не сумели или не захотели этому помешать.

До сих пор многие клянут Горбачёва и Ельцина (в белорусском варианте – еще и Шушкевича с Шарецким), винят их за всё плохое, что произошло с ними в 1990-е. Но обвинять этих деятелей не в чем. Они дали нам свободу, а как мы ею воспользовались – это уже претензии к нам самим. Мы почему-то любим пенять не на свою рожу, а на зеркало, забывая о том, что зеркало – производная от рожи. И во многих своих бедах и неудачах люди виноваты сами.

По сути, в начале девяностых повторилось то, что мы уже видели после революции 1917 года. Люди в массе своей не справились с доставшейся им свободой и предпочли «сильную руку», которой можно вручить всю полноту ответственности за себя и страну. В общем, это примерно то, что описано в книге Эриха Фромма «Бегство от свободы». И, к сожалению, в обоих случаях это закончилось плачевно – приходом к власти кровавых диктатур.

В 1991 году, во многом как и в 1917-м, свобода свалилась на нас неожиданно, мы не были к ней готовы и по достоинству не оценили. Поэтому и стал возможен приход к власти Александра Лукашенко, обещавшего возвращение в «социалистический рай». И четверть века, стоит признать, большую часть населения это вполне устраивало. Но события прошлого года показали, что белорусы в значительной степени выросли из авторитарных, патерналистских одежд и хотят жить в нормальном цивилизованном государстве. Вот только теперь наивно ожидать, что эта пресловутая свобода «сойдет к нам из царских рук». Дарить ее нам никто не собирается. Но вместе с тем хочется быть оптимистом. Да, первый раунд этой битвы мы проиграли, но она еще далека от завершения…

**Дмитрий КУРАТНИК,**
**постоянный читатель «Народной Воли».**

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ

# Тастамент генія

Няўмольны прысуд лёсу – нас усіх у гэтым свеце чакае найвышэйшая мера пакарання. Каго раней, каго пазней – нікога не абміне. І няма найвышэйшай інстанцыі, каб той прысуд абскардзіць, няма да каго звяртацца з апеляцыяй. Закон жыцця і смерці ўсім зразумелы, але нейкая вялікая несправядлівасць ёсць у тым, калі сыходзяць ад нас людзі з творчым агменем у душы, не дапісаўшы чарговую кнігу, не выказаўшы сябе дарэшты. Без папярэджання, не падаўшы знаку на развітанне.

Так сышоў у іншасвет Алесь Разанаў. Паэт і мысляр, на якога Беларусі проста пашчасціла. Які неаспрэчна існаваў у беларускай прасторы, але як бы па-за часам, прамаўляючы свае філасофскія маналогі кудысьці ў будучыню, ведучы свае няспешныя размовы, абавязкова пра штосьці *істотнае* (любімае паэтам слова) з вечнасцю.

Апошнім часам яго можна было сустрэць у Нацыянальнай бібліятэцы, дзе ён збіраў матэрыялы для новай кнігі-даследавання «След самаеда» – пра фіна-ўгорскія карані ў беларускай тапаніміцы. Кніга тая абавязкова сталася б яшчэ адным адкрыццём, як і ўсе папярэднія кнігі Алеся Разанава. Ён не любіў хадзіць пратаптанымі сцежкамі, ён па прыродзе сваёй быў наватарам: прадукаваў новыя ідэі, прыдумваў новыя словы, вынаходзіў новыя літаратурныя формы.

*«Я маю права ўсё закрэсліць і потым нанава пачаць»,* – смела абвясціў сямнаццацігадовы паэт з вёскі Сялец Бярозаўскага раёна. І – пачаў. З кнігі «Назаўжды» з'явіліся на свет нечуваныя раней *пункціры*, з «Вастрыя стралы» ўзніклі *версэты* і *квантэмы*, з кнігі «Паляванне ў райскай даліне» – *вершаказы* і *зномы*, з кнігі «Танец з вужакамі» – *злёсы*. Разанаўскія тайнапісы нярэдка ўспрымаліся ў штыкі крытыкамі-кансерватарамі. Зборніку «Шлях-360», каб прабіцца да чытача, спатрэбіліся два ахоўныя панцыры – прадмова Пімена Панчанкі і пасляслоўе Варлена Бечыка. Імпульсіўная паэзія Алеся Разанава рвала ланцугі традыцыі, спараджала дыскусіі ў друку, па ёй наладжваліся публічныя дыспуты.

Нонканфарміст у душы, Разанаў яшчэ ў 1968 годзе, будучы студэнтам БДУ, удзельнічаў у студэнцкіх выступленнях, скіраваных на абарону беларускай мовы ў сценах універсітэта (студэнты ўсяго толькі і хацелі, каб грамадскія навукі на беларускім аддзяленні чыталіся па-беларуску). За «беларускі нацыяналізм» загадам рэктара паэт быў адлічаны і толькі з дапамогай Максіма Танка атрымаў вышэйшую адукацыю – у Брэсцкім педінстытуце. Пасля яго заканчэння ў парадку выключэння (зразумела, хто тое выключэнне прыдумаў) быў мабілізаваны ў савецкае войска (хоць на той час існаваў загад – настаўнікаў не прызываць).

Асобна варта сказаць пра пераклады і перастварэнні Алеся Разанава, які самастойна вывучыў нямецкую, англійскую, літоўскую, сербскахарвацкую мовы. Дзякуючы яму з'явамі беларускай культуры сталі камедыі Уільяма Шэкспіра, адзначаныя Нобелеўскай прэміяй «Гітанджалі» Рабіндраната Тагора, кнігі твораў літоўскіх паэтаў. А перакладаў Разанаў своеасабліва, выступаючы хутчэй сутворцам, чым рэтранслятарам. Скажам, працуючы над знакамітымі «Баладамі Кукуціса» Марцэліюса Марцінайціса, Разанаў так увайшоў у вобраз кульгавага, з драўлянаю нагою, героя жэмайцкага фальклору, што сам ад яго імя напісаў сем балад (і змясціў іх сярод твораў Марцінайціса!).

Неяк нам давялося разам выступаць у Брэсце і Белаазёрску. І я з цікавасцю назіраў, як паэт-класік сыходзіў з алімпійскіх вышыняў і хітраваў перад студэнтамі, чытаючы свой ранні верш «Арышт Кастуся Каліноўскага»: *«Усе ніты ў сувой, / у заклік пагалоскі / з'яднаць – і стаць сабой!.. / Як зваць вас?..»* Тут аўтар цягнуў ненатуральна доўгую паўзу, нібы забыўшыся, і аўдыторыя не вытрымлівала, выдыхала як пароль: «Каліноўскі!»

Алеся Разанава прыжыццёва называлі геніем. Не ў вочы, вядома, усхваленняў ён не любіў. Называлі ў друку. І, што дзіўна, ніхто не пратэставаў. Веліч Разанава разумелі ўсе. Шкада, што геніям, як і прарокам, часта няма месца ў сваёй айчыне: пачынаючы з 2001 года паэт почасту і надоўга з'язджаў з Беларусі – у Германію, у Швейцарыю, у Літву. Але заўсёды вяртаўся. Жыццё на ласкавым хлебе (хай сабе і шчодрым) было не для яго.

Сын расійскага геолага з Тамбоўшчыны, які перад Другой сусветнай вайной прыехаў у Беларусь з геадэзічнай экспедыцыяй, Алесь Разанаў стаў адным з самых пранізлівых і метафізічных беларускіх паэтаў. Беларуская мова сілкавала яго, стала для яго тым бяздонным акіянам, дзе яму вольна плавалася. Глыбока і шырока, як плаваюць у акіянскай прасторы сінія кіты.

Алеся Разанава многа перакладалі за мяжой. Пэўна, яго філасафічная паэзія была аднолькава зразумелай і для еўрапейца, і для азіята, і для афрыканца. Як, напрыклад, вось гэты зном, які гучыць проста і пераканальна, як тастамент: *«Кожны народ мае / хаця б адзін геніяльны твор, / і гэты твор – / мова».*

Але найперш сваю творчасць – свой духоўны тастамент – паэт прызначаў для нас, сваіх суайчыннікаў. І ў наш смутны ірадаў час, калі ворагі беларушчыны робяць усё, каб знішчыць душу нацыі – нацыянальную культуру, мы не абрынемся ў духоўнае жабрацтва і нэндзу, а нават пабагацеем, калі будзем вартымі спадкаемцамі сваіх геніяў.

У тым ліку той спадчыны, якую пакінуў нам Алесь Разанаў.

ГОЛАС З ЗАЛЫ СУДА

## Кацярына БРОВАЧ:

# «Сёння, на жаль, я не веру і не спадзяюся ні на цуд, ні на справядлівасць, ні на вышэйшыя сілы...»

*Моцная прамова фігуранткі «карагоднай справы» ў Брэсце*



У Брэсце працягваецца судовы канвеер па «карагоднай справе». Асуджана ўжо **69** чалавек, абвінавачанне выстаўлена **108** мясцовым жыхарам. За краты кідаюць зусім маладых людзей, яшчэ студэнтаў ці нават школьнікаў. 23 жніўня з апошнім словам у судзе выступіла **Кацярына Бровач**. Па яе прамове можна зразумець, якое выпрабаванне выпала на моладзь пасля выбараў 2020 года і як маладыя людзі ўспрымаюць спробы дзяржавы задушыць незадаволеных.

**Кацярына Бровач** стала фігуранткай «карагоднай справы» 24 сакавіка. У той дзень яна разам са сваім хлопцам **Сяргеем Канановічам** пайшла на абед. На вуліцы іх затрымалі супрацоўнікі крымінальнага вышуку. Са Следчага камітэта Кацярына выйшла падазраванай па «народным» 342-м артыкуле (актыўныя дзеянні, што парушаюць грамадскі парадак) за верасьнёўскія падзеі – «карагодная справа» ў Брэсце. Сяргея змясцілі ў ізалятар, дзе ён знаходзіцца ўжо пяць месяцаў.

Праваабаронцы запісалі апошняе слова Кацярыны ў судзе:

*«У сваім апошнім слове я хацела б выказацца пра тое, што мяне безумоўна захапляюць тыя людзі, якія, стоячы да мяне на гэтым месцы ў чаканні прысуду, змаглі сказаць, што ўсім даравалі. На жаль, не магу сказаць тое самае, таму што для мяне вымавіць нешта падобнае значыла б схлусіць. Нічога з перажытага за апошнія пяць месяцаў я ўжо не ў стане ні забыць, ні дараваць. Не буду таксама хлусіць, што мне было проста перажыць гэтыя месяцы з усмешкай на твары. Не буду прыкідвацца, што цяпер не сабрала ўсю волю ў кулак, каб мой голас не дрыжэў і гучаў упэўнена. Не буду прыкідвацца, што за ўвесь час у мяне ні разу не ўзнікла жахлівая думка пра тое, што, калі аднойчы я не вярнуся з абеду ў офіс, на наступны дзень я не вярнуся дадому. Ніколі б не падумала, што маё жыццё будзе нагадваць сюжэт малабюджэтнага серыяла.*

*Раздаеш запасныя ключы родным і сябрам з просьбай у выпадку чаго абавязкова, абавязкова дагледзець ката. Думаеш: «Як адрэагуе тата, калі я ўслед за сваім маладым чалавекам раптам рэзка перастану выходзіць на сувязь? Хто ў выпадку чаго прынясе яму сардэчныя кроплі?»*

*Разрываешся паміж працай, допытамі, адвакатам і паходамі ў СІЗА і на пошту. Кожны вечар перад сном думаеш: адключуся праз хвіліну ад стомленасці або з цяжкасцю засну на світанні? Падлічваеш выдаткі і сумна ўсміхаешся: «Ніяк не маглі сабраць маме на помнік. А вось я ўжо якраз патрэбную суму патраціла».*

*І няхай кожны раз я была ветлівая, пры кожнай новай сустрэчы за маёй усмешкай заўсёды была думка пра тое, на чыёй адказнасці кожная зморшчынка на твары і кожны сівы валасок на галаве бацькоў, выкрадзенае здароўе ў мяне і майго блізкага чалавека. Я таксама маладая і амбіцыйная і не разумею, чаму я цаной свайго паламанага жыцця павінна станавіцца чарговай прыступкай чыйсьці кар'ернай лесвіцы. Хоць, напэўна, магла б зразумець, калі б змагла зірнуць на дзясятак чалавек не як на дзясятак лёсаў, а як на чарговую тэчку працоўных дакументаў. Але, нягледзячы на песімістычную карціну, хацела б адзначыць, што я не дазволю прымусіць мяне адчуваць гнеў і нянавісць, я ўпарта працягну шукаць добрае нават у тых абставінах, якія склаліся.*

*Я шчыра захапляюся хлопцамі пад вартай. Хоць я не ў стане вярнуць вам ні хвіліны скрадзенага ў вас часу, я ганаруся кожным з вас, што нават праз такі доўгі тэрмін зняволення вы ўсе так выдатна выглядаеце і так годна трымаецеся. Некаторымі я ганаруся асабліва. Хачу запомніць гэты перыяд як час самых прыемных чэргаў, дзе чаканне перадачы ў СІЗА з лёгкасцю магло б замяніць сеанс курса псіхатэрапіі.*

*З нецярпеннем чакаю моманту выканаць узятае з мяне на пошце абяцанне вярнуцца, каб адправіць не «няшчасныя лісты ў няволю», а проста паштоўкі з віншаваннямі родным.*

*Я ўдзячная адвакатам, якія так самаадданa працягваюць выконваць сваю працу нават у эпоху, калі «ўсе цудоўна ўсё разумеюць». І, нягледзячы ні на што, наўрад ці я адчувала сябе больш шчаслівай, чым цяпер. Таму што я ведаю, што такое падтрымка каханага чалавека, што такое абарона старэйшай сястры, што такое бацькоўская мудрасць, што такое сапраўдныя сябры – тыя самыя, з якімі і ў агонь, і ў ваду. Бо кожны можа любіць, калі ўсё добра, і далёка не кожны зможа працягваць любіць і заставацца побач, калі свет руйнуецца і зямля сыходзіць з-пад ног. А мяне любяць насуперак усяму.*

*Гэта быў балючы і траўматычны вопыт. Але з такой падтрымкай я ўсё яшчэ ў стане трымаць спіну прама. Сёння, на жаль, я не веру і не спадзяюся ні на цуд, ні на справядлівасць, ні на вышэйшыя сілы. Але ўсё яшчэ ўпарта працягваю верыць у дабро, сумленне і, зразумела, у сябе».*

Дзяржабвінаваўца **Аляксандр Бацюшка** запытаў для Кацярыны Бровач паўтара года «хатняй хіміі», для яе хлопца Сяргея Канановіча – рэальнай «хіміі» на такі ж тэрмін. Учора суддзя **Дзмітрый Кураўскі** агучыў прысуд *(гл.на 1-й стар.)*.

ТЭНДЭНЦЫЯ




# З пачатку года беларусы знялі са сваіх банкаўскіх рахункаў звыш 750 мільёнаў долараў

Згодна са справаздачай Нацыянальнага банка Беларусі, валютныя ўклады ў ліпені скараціліся яшчэ на 152,8 мільёна долараў.

Як удакладняе са спасылкай на фінансавага рэгулятара эканамічнае выданне «Белорусы и рынок», у агульным вымярэнні фізічныя асобы забралі 131,5 мільёна долараў, прадпрыемствы – 21,3 мільёна.

Зыходзячы з падлікаў Нацбанка, на гэты час валютныя ўклады крыху перавышаюць 10 мільярдаў долараў.

Насельніцтва ў асноўным забірала сродкі з тэрміновых банкаўскіх укладаў – зберажэнні ў замежных валютах па-ранейшаму пераважаюць, іх доля перавышае 68%.

Раней паведамлялася, што за першае паўгоддзе беларусы забралі з банкаў валютныя дэпазіты на суму звыш 600 мільёнаў долараў. З улікам дадзеных ліпеня – ужо больш за 750 мільёнаў.

Адток дэпазітаў стварае пагрозу фінансавай стабільнасці, стварае падвышаны ціск на ліквіднасць банкаў, істотна абмяжоўвае магчымасці крэдытнай падтрымкі эканомікі. Сродкі насельніцтва і юрыдычных асоб складаюць аснову рэсурснай базы банкаўскай сістэмы, падсумоўваюць эксперты Нацбанка.

ТАМ, ЗА КРАТАМІ

# Аляксандр ІВУЛІН: «Шчасце – у дробязях...»

*Ужо амаль тры месяцы вядучы YouTube-праекта «ЧестнОК» і ігрок футбольнага клуба «Крумкачы» знаходзіцца за кратамі.*




**Аляксандр Івулін** быў затрыманы 3 чэрвеня, яго абвінавачваюць паводле арт.342 КК РБ «Арганізацыя групавых дзеянняў, што груба парушаюць грамадскі парадак».

Калегі Аляксандра папрасілі чытачоў падзяліцца інфармацыяй з лістоў, якія ім піша журналіст.

У сваіх лістах Саша паведамляе, што стараецца сачыць за тым, што адбываецца ў беларускім спорце, але з-за адсутнасці незалежных СМІ даводзіцца браць інфармацыю з даволі нечаканых крыніц.

*«Будзе стабільна прыходзіць «Прессбол», таму буду зачытвацца некаторымі яго аўтарамі, а пакуль знаёмлюся з творчасцю Мукавозчыка, Канашыца, Гладкай і іншых».*

У СІЗА на Валадарскага Аляксандр чытае не толькі прэсу.

*«Я тут стараюся чытаць, і ў кнізе «Архіпелаг ГУЛАГ» Салжаніцына мяне закранула такая фраза: «Чалавек з нячыстым сумленнем не можа спакойна легчы спаць». Дык вось я нават тут кладуся спаць спакойна (наколькі гэта магчыма). Галоўнае, што сумленне чыстае.*

*А яшчэ нядаўна закончыў чытаць «Авіятара» Былінкіна. Напісаў заяўку ў бібліятэку, чакаю літаратуру».*

Пра свой побыт Аляксандр Івулін распавядае так:

*«Бегаю падчас прагулкі па 45 хвілін у дзень. Праўда, як у Высоцкага, бег пакуль на месцы, але нават ён не ратуе ад лішніх калорый. Адчуваю, пасля вызвалення пачнуцца трэнажоры і дыеты. Што яшчэ рабіць, калі ў пасылках (перадачах) шмат салодкага? Не прападаць жа дабру. Як гаворыцца, жыццё-маліна. Дакладней, тут няма маліны, бо яе нельга перадаваць. Жыццё – цукеркі, шакалад, арэхі і сухая садавіна. І яшчэ шмат-шмат усяго смачнага».*

Журналіст трымаецца аптымістычна і нават падбадзёрвае тых, хто на волі.

*«Самае галоўнае – не трэба сумаваць,* – піша ён. – *Я ж амаль заўсёды ўсміхаюся, і вы рабіце гэтак жа.*

*Я трымаюся тут і стараюся не падаць духам. Наадварот, атрымліваю задавальненне ад дробязяў. Напрыклад, падчас прагулкі, калі пайшоў дождж, бег і кайфаваў. Альбо – закідваеш у аўсянку M&M's, глядзіш, як яна робіцца рознакаляровай і атрымліваеш задавальненне. Або жуеш арахіс з перадачы і разумееш, што пра цябе не забываюць.*

*Увогуле, шчасце ў дробязях. Важна памятаць пра гэта і верыць у лепшае. Тады яно абавязкова надыдзе. А ўсё цяперашняе ператворыцца ў вопыт і ўспаміны».*

Таксама ледзь не ў кожным лісце Аляксандр Івулін дзякуе тым, хто не забывае пра яго і падтрымлівае лістамі і перадачамі.

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Чаму сярэбраны прызёр Алімпіяды Андрэй Краўчанка з'ехаў у Германію?

*Беларускі лёгкаатлет плануе трэніраваць нямецкіх дзяцей.*

**Андрэй Краўчанка** неаднаразова выказваў сваю пазіцыю з нагоды таго, што адбываецца ў краіне, падпісаў ліст супраць гвалту і за сумленныя выбары.

Напрыканцы мінулага года славуты спартсмен нават патрапіў на 10 сутак у ізалятар часовага ўтрымання.

*«Хіба што ў кіно такое бачыў,* – распавядаў затым Андрэй «Народнай Волі». – *Рэчаіснасць аказалася больш крутая, чым кінематограф. Нават у страшным сне не мог прысніць, што калі-небудзь апынуся ў такім месцы.*

*Трэба сказаць, што ўражанні, мякка кажучы, не самыя прыемныя. Камера – два на шэсць метраў, кіслароду не хапала. Пастаянна гарэла яркае святло, харчаванне адпаведнае.*

*Першыя чатыры дні з шасці раніцы да дзесяці вечара даводзілася стаяць. На ложках сядзець забаранялася, кантралёры ўвесь час прыходзілі і правяралі. А на маленькай лавачцы толькі два чалавекі змяшчаліся*

*Сцены былі халодныя, таму да іх таксама не прыхіналіся. Я два дні наогул практычна не спаў. Неяк дрымота адолела, да сценкі прыціснуўся, і справа ледзь не скончылася запаленнем лёгкіх. Тым больш што пасля таго, як нас у ізалятары гналі па калідоры і прымушалі прысядаць і падскокваць, майка ў мяне была цалкам мокрая. Я гадзіну патым паўголы сядзеў, пакуль рэчы сушыліся на батарэі.*

*Я – падрыхтаваны спартсмен, але нават мне было складана пераносіць такія фізічныя нагрузкі. А як астатнім даводзілася?!*

*І за кратамі сядзелі не злачынцы, не бандыты, а вельмі прыстойныя і інтэлігентныя людзі – інжынеры, выкладчыкі, навуковыя работнікі, праграмісты, менеджары па продажах... З кім толькі не сустракаўся ў СІЗА!»*

Андрэй Краўчанка шчыра прызнаўся: калі і працягне выступаць на спаборніцтвах, то толькі пад нейтральным сцягам.

*– Мяне ж, па сутнасці, выгналі са зборнай за грамадзянскую пазіцыю,* – адзначае спартсмен.

Адносна не так даўно стала вядома, што Андрэй разам з сям'ёй пакінуў Беларусь – пераехалі ў Германію.

*– Мой далейшы лёс будзе залежаць толькі ад мяне,* – кажа спартсмен. – *Я буду шукаць магчымасць тут трэніравацца. Паколькі ў Беларусі я гэтага рабіць не магу, прыйдзецца трэніраваць нямецкіх дзяцей. А жонка Яна* (Яна Максімава – таксама лёгкаатлетка. – **Аўт.**), *думаю, працягне кар'еру тут у якім-небудзь мясцовым клубе.*




Патлумачыў сярэбраны прызёр Алімпіяды-2008 і правальнае выступленне беларускіх алімпійцаў на апошніх Гульнях, якія прайшлі ў Токіа:

*– У Беларусі ўся сістэма падрыхтоўкі спартсменаў парушана. Няма яе, усё будуецца на індывідуальных якасцях атлетаў, на таленце. Медалёў з кожнай Алімпіядай усё менш і менш.*

*Таму пакуль не распрацуюць нейкую нармальную сістэму развіцця спорту ў краіне, пакуль кіраваць спортам будуць ваенныя, а не спартсмены, не будзе развіцця.*

*А пакуль што ўсё дэградуе. Трэнераў не хапае, усё сумна. Лядовых палацаў панабудавалі, а сістэмы няма.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

АЎКЦЫЁН

# Медаль за 21 тысячу долараў

*За такую суму купілі на аўкцыёне медаль беларускай лёгкаатлеткі **Крысціны Ціманоўскай**.*



Нагадаем, што падчас Алімпіяды ў Токіа нашы спартыўныя чыноўнікі адхілілі Ціманоўскую ад спаборніцтваў у бегу на 200 метраў за публічнае асуджэнне дзеянняў тых самых чыноўнікаў. Таксама спартсменка патрапіла пад ціск дзяржаўнай прапаганды, яе да гэтага часу вінавацяць у тым, што, маўляў, гэта яна раздзьмула скандал.

Прадстаўнікі беларускай каманды хацелі вывезці Ціманоўскую з Токіа ў Беларусь, але яна папрасіла абароны ў паліцыі і зараз знаходзіцца з мужам у Польшчы.

Лёгкаатлетка вырашыла выставіць на аўкцыён сярэбраны медаль, які заваявала на ІІ Еўрапейскіх гульнях 2019 года ў Мінску. У выніку медаль быў прададзены за 21 тысячу долараў.

Усе сродкі будуць пералічаны ў фонд, які дапамагае пацярпелым ад рэпрэсій беларускім спартсменам.

**Віктар ШПАК.**

УСМІХНІЦЕСЯ...

У майстэрні:
– Колькі вам трэба часу, как адрамантаваць гэта?
– Зраблю за гадзіну на працягу тыдня.

***

– Скажы мне, хто ты, і я скажу, хто твой сябар.
– Я мільянер.
– Я твой сябар.

***

– Дарагі, ці не надышоў час пазнаёміць мяне з тваімі роднымі?
– Ну, нават не ведаю... Дзеці зараз у цешчы, жонка – у камандзіроўцы.

***

Цікавае назіранне: у ляўшэй грошы ляжаць у правай унутранай кішэні, у праўшэй – у левай. А ў тых, у каго развіты абодва паўшар'і галаўнога мозгу, – у швейцарскім банку.

ШАШКІ

## Піцерскі госць

Актыўны карэспандэнт нашай рубрыкі **Анатоль Панчанка** прапануе чытачам пазнаёміцца з новымі творамі піцерскага майстра **Веліміра Дзярабіна**. Праблемы-64 складзены ў стылі спалучэння камбінацыі і эцюднага эндшпіля.



№1 **Белыя**: a7, b4, c5, d6, f6, h6 (6).
**Чорныя**: a3, b6, b8, c7, d4, e3, g3 (7).
hg7, h8, a1, h2, c7, b8 x.

№2 **Белыя**: a3, c1, c3, e1, e3, e5, f4 (7).
**Чорныя**: a5, c5, c7, e7, f6, g3, g7, h2, h8 (9).
cb4(c3), cd2, h6, g3, e3(g7), a7(h6), b8(d6), b4(g5), c5, h6(c3), c1 x.

№3 **Белыя**: a1, a5, b6, d2, e3, f6, g1, g5 (8).
**Чорныя**: a7, b8, c5, d4, d6, f2, g7, h2, h8 (9).
h6, c3, f6, c7, f2(e5, g1), c5, c7 x.

№4 **Белыя**: b2, c1, c3, d2, f4 (5).
**Чорныя**: a5, b4, f2, g5, h6, h8 (6).
a3, g1(g7), f2(f6), e3(fg5), e5(h4), d6(g3), c7(h2), b8(b4, g1), a7 x.

№5 **Белыя**: a1, b4, c5, d4, d6, h4, h6 (7).
**Чорныя**: a7, d2, d8, e3, f2, f4, h8 (7).
e7, b6, g7, c3(b2), b4, c3(g7), g5 x.

## Ёсць праблемы

Прыводзім праблему **Генадзя Андрэева** (Латвія).

№6 **Белыя**: c7, d2, f2, g7, h6 (5).
**Чорныя**: a3, e5, f4, f6, f8, h8 (6).
d8(g3**A**), h4(b2), g5, e7, c3, g5(c5), f6, b4(e3), e1 x. **A**(g5), h4, d8(b2), c3, **I**c7(c3), e3, c1 **I**g5?(g3), h4(c3), c1(f4), g5(b2), f6(c1), e5(a3)=.

Наступныя праблемы **Ншана Алывердзяна** рашыце самастойна.

№7 **Белыя**: a7, b4, c5, d2, e1, e3, f6, g7 (8).
**Чорныя**: b2, c7, d8, e7, f4, g3, g5, h4 (8).

№8 **Белыя**: a5, b2, b4, b6, c1, c5, c7, g3, g5 (9).
**Чорныя**: a3, b8, d6, d8, e3, e5, e7, g7 (8).

## Школа кампазіцыі

Праблема вядучага рубрыкі, прыведзеная ніжэй, мае два кампазіцыйныя рашэнні, што не дазваляецца правіламі.

№9 **Белыя**: 11, 14, 17, 19, 20, 21, 24, 27, 34, 46, 48 (11).
**Чорныя**: 3, 8, 9, 12, 23, 25, 28, 33, 37, 38, 42, 45 (12).
41, 37, 13, 8, 3, 43, 7, 2, 50 x.
Выйграе таксама: 43, 41, 13, 8, 3, 37, 7, 2, 50 x.

Магчыма апрацоўка кожнага рашэння ў асобную кампазіцыю. Глядзіце, як прапануе гэта зрабіць аўтар.

№10 **Белыя**: 6, 11, 14, 17, 18, 19, 20, 21, 23, 24, 34, 41 (12).
**Чорныя**: 1, 3, 8, 9, 12, 25, 28, 31, 32, 33, 38, 40, 45 (13).
36, 34, 27, 13, 8, 3, 43, 7, 2, 50 x.

№11 **Белыя**: 11, 12, 14, 17, 20, 21, 27, 36, 40, 44, 46 (11).
**Чорныя**: 1, 3, 9, 23, 25, 26, 28, 29, 33, 39, 42, 45 (12).
34, 31, 41, 12-7, 8, 3, 37, 7, 2, 50 x.

## Прапануем пазнаёміцца...



Вядучы рубрыкі прапануе новыя творы ў розных жанрах.

№12 *(гл.дыяграму)* **Белыя**: 7, 8, 12, 13, 14, 17, 18, 19 (8).
**Чорныя**: 1, 2, 3, 4, 27, 28, 29 (7).
14-9(23**A**), 3, 7(1:12), 24, 9, 21(33), 16(39), 11 x. **A**(22), 2, 9(4:13), 21, 7, 24 x.

Два камбінацыйныя эцюды прапануем рашыць самастойна.

№13 **Белыя**: шашкі 31, 34, 42, дамка 48 (4).
**Чорныя**: шашкі 17, 19, 26, 41, дамка 25 (5).

№14 **Белыя**: шашкі 7, 13, 24, дамка 15 (4).
**Чорныя**: шашкі 3, 27, 37, 41, дамка 20 (5).

## Супаставім рашэнні

«Народная Воля» за 15 чэрвеня 2021 года.

**№1** – a7(c5**A**), e3, b8 (a3), d6, a7(b4, c3), g7(ab2), ed4, a1 x.
**№2** – f6, b8, g3, c1 x.
**№3** – g3, g5, g7, d8/g7, c3, g7, e1 x.
**№4** – gf4, b8, g7, c5(e5), g5 x.
**№5** – bc3, g5(f4**A**), g3(f2**B**),, b4, g1 x. **A**(b6), b4, a7 x. **B**(c1), c3, c5 x.

Адказы даслалі: **Сяргей Лойка**, **Уладзімір Дудка** (Украіна), **Эдуард Дамброўскі**, **Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі** (Мінск), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Леанід Жыхар**, **Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Сяргей Бурко** (Орша). Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

Свае лісты дасылайце на адрас рэдакцыі ***(220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, «Шашкі»)*** або на электронны адрас: ***shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА, міжнародны майстар спорту.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 326-68-71
Рэкламны аддзел (017) 363-66-04
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ